Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар
Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 32.430
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

# СВАБОДА

Аўторак, 2 верасня 1997 г. | № 96 | Кошт свабодны

## Журналісты ў турэмных робах

**У суботу на мінскай плошчы Бангалор адбыўся мітынг у абарону свабоды прэсы.**

Мітынгу папярэднічала шэсце журналістаў незалежных выданняў, якія прайшлі да плошчы Бангалор у паласатых робах. Гэткая форма адзення была абраная і дзеля салідарнасці з П.Шареметам, якога насуперак дыпламатычным захадам розных узроўняў усё яшчэ трымаюць за кратамі, і як прагноз на перспектыву, ад якой ніхто з незалежных журналістаў у нашых умовах не застрахаваны.

Няблага дапамаглі акцыі міліцыянты, якія суправаджалі «паласатую» калону: атрымалася, што прэса ў турэмнай робе ідзе пад міліцэйскім канвоем. Выдатны сімвал свабоды слова ў Беларусі! Падчас шэсця да міліцыянтаў падышлі дзеці, якія палічылі журналістаў за сапраўдных арыштантаў, і запыталіся, куды тыя іх вядуць. «Туды!» — адказаў вусаты капітан, махануўшы рукой у бок плошчы Бангалор. «А дзе там турма?» — працягваў дапытвацца дзіцёнак.




*На здымку: удзельнікі мітынгу вітаюць журналістаў.*

На мітынгу выступілі вядомы рэжысёр-дакументаліст Ю.Хашчавацкі, рэдактар СВАБОДЫ І.Германчук, іншыя журналісты. Паэт С.Адамовіч, які правёў 9 месяцаў у СИЗО за свой верш «Убей президента», непасрэдна на трыбуне зашыў сабе рот (сімволіку гэтага акта, думаецца, тлумачыць не трэба). Найбольш цёплыя пачуцці ўдзельнікаў мітынгу выклікала, натуральна, выступленне маці Паўла Шарамета. Сябры арганізацыі «Маладры фронт» перадалі ёй больш за 10 тыс. подпісаў, сабраных пад патрабаваннем вызвалення карэспандэнта ОРТ.

Па розных ацэнках, у мітынгу ўзялі ўдзел ад 3 да 5 тыс. чалавек. Нягледзячы на тое, што мерапрыемства было санкцыянаваным, спецслужбы рабілі відэазапіс мітынгу.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Новыя палітэмігранты

**На мінулым тыдні ўлады Чэшскай Рэспублікі прадаставілі палітычны прытулак двум грамадзянам Беларусі, жыхарам Віцебска Уладзіславу Яндзюку і Сяргею Юрчанку.**

Яндзюк і Юрчанка з'яўляліся актывістамі БНФ і нават выдавалі ўласнымі сіламі ў Віцебску незалежны бюлетэнь пад назваю «Свабоднае слова». Як паведаміў Уладзіслаў Яндзюк у інтэрв'ю радыё «Свабода», у красавіку гэтага года яны былі вымушаны пакінуць Беларусь, бо адчувалі небяспеку для жыцця і здароўя ў сувязі са сваёй апазіцыйнай дзейнасцю. Яндзюк выказаў удзячнасць уладам Чэхіі, якія з разуменнем паставіліся да іх праблемаў. Пасля атрымання статусу палітычных ўцекачоў Яндзюк і Юрчанка будуць карыстацца амаль усімі правамі чэшскіх грамадзянаў.

Як нам паведамілі ў амбасадзе Чэхіі ў Мінску, прадастаўленне палітычнага прытулку грамадзянам іншых краінаў не з'яўляецца нечым надзвычайным. За апошні год дэпартамент эміграцыі МУС Чэхіі выдаў від на пастаяннае жыхарства некалькім сотням беларускіх бізнесменаў, якія перанеслі сваю дзейнасць на тэрыторыю Чэшскай Рэспублікі.

Рэакцыя афіцыйнага Мінска на прадастаўленне У.Яндзюку і С.Юрчанку палітычнага прытулку была прадказальнай. Так, па звестках Інтэрфакса, кіраўнік прэс-службы Лукашэнкі Валерый Талкачоў расцаніў гэты крок як *«правакацыю апазіцыйных сілаў, якія дамагаюцца стварэння негатыўнага іміджу кіраўніцтва Беларусі»*. На пятнічным брыфінгу ў МЗС міністр Іван Антановіч заявіў, што беларускі бок атрымаў афіцыйнае паведамленне з Прагі і вельмі абураны такімі дзеяннямі чэшскіх уладаў. Антановіч сказаў, што не ведае гэтых прозвішчаў і, на яго думку, яны нічога не значаць на беларускай палітычнай сцэне.

Нагадаем, што прадастаўленне палітычнага прытулку Уладзіславу Яндзюку і Сяргею Юрчанку стала трэцім пасля надання ўладамі ЗША і Францыі падобнага статусу Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку, а таксама аташэ па культуры беларускай амбасады ў Парыжы Уладзіміру Палупанаву.

У Варшаве падобнага рашэння чакаюць жонка Пазьняка Галіна Вашчанка і студэнт з Брэста Ян Чурыловіч, які праследуецца беларускімі ўладамі за палітычную дзейнасць.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мінімальная зарплата — 200 тысяч рублёў

Савет міністраў РБ прыняў пастанову аб павелічэнні мінімальнай заработнай платы. З 1 верасня яна ўстаноўленая ў памеры 200 тыс. рублёў, тарыфная стаўка першага разраду — 220 тыс. рублёў.

**Б.П.**

## Расіяне выступаюць за ГАЗават

**Большасць расіянаў падтрымлівае намеры «Газпрома» зменшыць падачу газу ў Беларусь і ва Украіну, каб атрымаць даўгі за ўжо пастаўлены газ.**

За гэта выказаліся 59% апытаных. Толькі 23% заявілі, што не адабраюць такі падыход. Сацыялагічнае апытанне праводзілася ў 29 рэгіёнах РФ агульнарасійскім фондам «Грамадская думка».

**М.Г.**

## Каржакова запрасілі ў Мінск

**Як паведамляюць маскоўскія газеты, прэзідэнт Лукашэнка запрасіў наведаць Беларусь Аляксандра Каржакова — былога шэфа службы бяспекі прэзідэнта РФ.**

Газеты пішуць, нібыта Лукашэнка хоча прапанаваць скандальна вядомаму генералу *«работу па спецыяльнасці»*.

**М.Н.**

## Гарачы жнівень

**1.468 пажараў адбылося ў жніўні ў Беларусі.**

У агні загінуў 31 чалавек, у тым ліку трое дзяцей. Аб гэтым «Інтэрфаксу» паведамілі ў прэс-цэнтры Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы МУС рэспублікі.

Пажары знішчылі звыш 1.400 пабудоваў і яшчэ сур'ёзна пашкодзілі 1.660. Пры гэтым, як падкрэсліваюць спецыялісты, колькасць пажараў у сельскай мясцовасці амаль на 40% перавышае іх колькасць у гарадах.

У прыватнасці, у жніўні агнём знішчана 45 галоў жывёлы, больш 1.600 тон загатаваных кармоў, 27 адзінак тэхнікі, 12 дарагіх камбайнаў.

Акрамя таго, у лясах і на тарфяніках рэспублікі адбылося больш 150 пажараў, якія ахапілі плошчу ў 120 гектараў. Як адзначаюць спецыялісты, асноўнымі прычынамі ўзнікнення пажараў з'яўляюцца неасцярожнае карыстанне агнём ва ўмовах сухога і гарачага надвор'я, якое ўсталявалася ў Беларусі на працягу апошніх тыдняў, а таксама курэнне ў нецвярозым стане.

Што тычыцца прычын пажараў у ходзе правядзення сельскагаспадарчых работ, то тут у якасці асноўных называюцца непаладкі ў тэхніцы, звязаныя з яе зношанасцю, а таксама парушэнне правілаў бяспекі пры правядзенні рамонтных работ непасрэдна на палях. Эканамічны ўрон рэспубліцы ад пажараў у жніўні перавысіў 10 млрд. рублёў.

*Інтэрфакс*

## Справа супраць Ганчара

**У мінулую пятніцу дэпутата Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара двое міліцыянтаў у прымусовым парадку даставілі ў Мінскую гарадскую пракуратуру.**

У 7 гадзінаў раніцы няпрошаныя госці пазванілі ў дзверы кватэры Ганчара, але ім было культурна растлумачана, што яшчэ надта рана. Дзве гадзіны міліцыянты чакалі пад дзвярыма, а калі ім адчынілі кватэру, прад'явілі пастанову пракурора Мінска аб прымусовым прыводзе Віктара Ганчара ў якасці *«подозреваемого в совершении преступления»*. Следчы гарадской пракуратуры Генадзь Бурштын патлумачыў карэспандэнту СВАБОДЫ, што Віктару Ганчару інкрымінуецца артыкул 128 ч.2 Крымінальнага кодэкса: *«паклёп на службовую асобу ў звязцы з ілжывымі абвінавачваннямі яе ў злачынстве»*. Гэты артыкул прадугледжвае пазбаўленне волі да 5 гадоў.

Чаму ж у якасці чарговай мішэні кіруючы рэжым выбраў рэспектабельнага дэпутата, былога старшыню Цэнтрвыбаркама? Як вядома, яшчэ напярэдадні так званага рэферэндуму прэзідэнт Лукашэнка пачаў знішчэнне свайго найбольш сур'ёзнага апанента, зняўшы яго незаконным указам з пасады старшыні Цэнтрвыбаркама. Сіламі міліцыі В.Ганчара выдварылі тады з ягонага службовага кабінета.

Далейшая палітычная дзейнасць Віктара Ганчара, які пазбавіўся сваёй пасады ў час пераварота, выклікае асаблівую занепакоенасць у кіруючай вярхушцы. В.Ганчар узначаліў спецыяльную камісію Вярхоўнага Савета па прававой ацэнцы парушэнняў Канстытуцыі і законаў прэзідэнтам Лукашэнкам. Камісія падрыхтавала заключэнне, якое займае 85 старонак друкаванага тэксту. Тут адзначаецца, што *«з першых жа дзён знаходжання ва ўладзе прэзідэнт стаў на шлях захопу дзяржаўнай улады пры дапамозе незаконнага фактычнага пашырэння ўласных паўнамоцтваў, пазбаўлення незалежнасці ўсіх галінаў улады, абмежавання правоў і свабодаў грамадзян»*. Камісія налічыла ажно 156 незаконных указаў і распараджэнняў Лукашэнкі. У заключэнні камісіі адзначаецца, што Лукашэнка захапіў дзяржаўную ўладу неканстытуцыйным шляхам і павінен панесці адказнасць згодна з арт. 61[1] Крымінальнага кодэксу. Спецыяльнае паседжанне Вярхоўнага Савета, на якім адбудуцца слуханні па заключэнні камісіі, запланаванае на бліжэйшы час. Паводле арт. 104 Канстытуцыі, з гэтага моманту паўнамоцтвы прэзідэнта дэ-юрэ прыпыняцца. Рэжым разумее, якія рэальныя палітычныя наступствы можа мець гэтая справа.

Па словах Віктара Ганчара, *«улады напалоханыя любым ажыўленнем апазіцыі»*. Камісія працягвае збіраць матэрыялы ў іншых накірунках, звязаных са службовай і эканамічнай злачыннасцю кіруючай вярхушкі. Віктар Ганчар лічыць, што *«электарату малазразумелыя такія рэчы, як захоп улады неканстытуцыйным шляхам. Зусім па-іншаму будзе ўспрымацца службовая і эканамічная злачыннасць, і ўлады гэта добра разумеюць»*.

Рэжым выкарыстоўвае апрабаваны сродак для ліквідацыі апанентаў. Віктар Ганчар лічыць, што яму «шыюць» справу, каб сарваць паседжанне Вярхоўнага Савета. Па словах Ганчара, асаблівую ролю тут выконвае генеральны пракурор А.Бажэлка. Менавіта з ягонай санкцыі міліцыянеры даставілі дэпутата ў пракуратуру.




*Віктар Ганчар на журналісцкім мітынгу.*

Аднак Віктар Ганчар катэгарычна адмовіўся ўдзельнічаць у любых следчых дзеяннях, якія ён назваў «псіхіятрычнымі гульнямі». Дэпутат заявіў, што як кіраўнік спецкамісіі ён падсправаздачны толькі Вярхоўнаму Савету. В.Ганчар зрабіў заяву і папрасіў следчага далучыць яе да так званай «справы». У ёй гаворыцца, што матэрыялы спецкамісіі, Канстытуцыя і законы Беларусі даюць дастаткова падставаў *«для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць грамадзяніна Лукашэнкі»*. Па гэтай справе В.Ганчар гатовы выступіць у якасці сведкі. Заява дэпутата збянтэжыла следчага Бурштына, які некалькі разоў тэлефанаваў генпракурору Бажэлку для кансультацыяў. Пасля няўдалага допыту быў праведзены вобыск на кватэры Віктара Ганчара. Але нічога «крамольнага» не знайшлі. Дэпутата пакінулі пакуль на свабодзе. Генпракурору А.Бажэлку, відаць, патрэбны час, каб узгадніць далейшыя дзеянні з палітычным кіраўніцтвам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Рэкет на мяжы

**Група людзей, апранутых у форму беларускай міліцыі, некалькі дзён «дзяжурыла» на дарозе непадалёк ад беларуска-расійскай мяжы і рабавала аўтамабілі, што ехалі з Расіі.**

Усё адбывалася ў Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Злачынцы прадстаўляліся нарадам памежнага кантролю і прымушалі кіроўцаў выплочваць «штрафы». Злачынцаў было чацвёра, затрымаць здолелі траіх. Адзін з членаў злачыннай групоўкі сапраўды аказаўся супрацоўнікам міліцыі.

**Іван ЗАСАДА**

# Дабрачыннасць па павестцы

**Вялікі размах набылі работы па рэканструкцыі і добраўпарадкаванні цэнтральнай часткі Гомеля, які напрыканцы верасня збіраецца адзначыць шэраг святаў.**

Гомельцы дзіву даюцца: дзе бяруць гарадскія ўлады такія вялікія сродкі і ці не задорага абыдуцца святы. Адна толькі замена асфальту на фігурную плітку на прывакзальнай плошчы і ў парку культуры здольна з'есці ўвесь гарадскі бюджэт.

Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў гарвыканкаме, *«камунальнікам аказваюць дапамогу многія прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу»*. Улады вынайшлі «арыгінальны» рэцэпт, як гэтыя грошы атрымаць. Напрыклад, у Чыгуначным раёне горада прадпрымальнікаў выклікаюць у выканкам тэрміновымі павесткамі без тлумачэння прычыны. Прыбыўшы па павестцы, напалоханы бізнесмен даведваецца, што ад яго патрабуецца ўсяго толькі... добраахвотнае ахвяраванне ў мільён (два, тры, пяць і г.д.) рублёў. Улічваючы горкі вопыт зносінаў з чыноўнікамі, прадпрымальнікі лічаць за лепшае грошы аддаць.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Малая прыватызацыя ідзе вельмі марудна

**Прадстаўнікі Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) падвялі вынікі рэалізацыі праекта «Малая прыватызацыя ў Беларусі».**

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі кіраўнік праекта Карым Ахмат, на 9-ці праведзеных у жніўні 1997 г. аўкцыёнах было выстаўлена на продаж 43 аб'екты камунальнай уласнасці. З іх прададзена ўсяго 14.

Праблема, на думку прадстаўніка МФК, заключаецца ў тым, што гарадскія ўлады часцей за ўсё выстаўляюць на продаж права на арэнду незавершаных ці пустуючых аб'ектаў, якія не маюць попыту ў патэнцыяльных пакупнікоў.

Нерашучасць беларускіх уладаў у адносінах да правядзення малой прыватызацыі выклікае занепакоенасць і неразуменне ў прадстаўнікоў МФК. Сусветная практыка, па словах Карыма Ахмата, даказвае, што толькі передача прадпрыемстваў камунальнай уласнасці прыватным гаспадарам можа спрыяць павышэнню эфектыўнасці іхняй работы. Тым часам у Беларусі спрабуюць вырашыць гэтую праблему шляхам акцыявання, што з'яўляецца толькі зменай шыльдаў. Цікава ў гэтай сітуацыі, якім чынам беларускі ўрад збіраецца завяршыць малую прыватызацыю ў краіне да канца 1999 г. А гэтая ўмова з'яўляецца абавязковай для Беларусі ў адпаведнасці з падпісаным паміж нашым урадам і Сусветным банкам Мемарандумам аб узаемаразуменні.

На верасень запланаванае правядзенне яшчэ 6-ці аўкцыёнаў па Беларусі, на якіх у продаж плануецца выставіць 38 аб'ектаў камунальнай уласнасці. Паглядзім, як пойдуць справы далей.

**Вераніка СТРОЕВА**

# Хлебны тэндэр

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання правяло тэндэр на забеспячэнне паставак зерня ў Беларусь.**

Як вядома, наш уласны ўраджай не дазваляе поўнасцю забяспечыць патрэбы краіны, таму штогод Беларусі даводзіцца купляць за мяжою як мінімум 1 млн. тонаў збожжа.

Правядзенне тэндэра звязана, перш за ўсё, з неабходнасцю знайсці пастаўшчыкоў з мінімальнымі цэнамі на збожжа. Жаданне забяспечыць пастаўкі фуражнага і харчовага зерня ў Беларусь выказалі 16 беларускіх і замежных фірмаў, якія і падалі заяўкі на ўдзел у конкурсе. Аднак непасрэдна да тэндэра было дапушчана толькі дзевяць кампаній. У мінсельгасхарчы такі крок растлумачылі тым, што не ўсе прэтэндэнты своечасова прадставілі фінансавыя гарантыі.

У выніку пераможцамі тэндэра сярод пастаўшчыкоў фуражнай пшаніцы сталі беларускія кампаніі: аграрна-прамысловае ЗАТ «Славянская дзелавая група», АТ «Рассвет» і амерыканская фірма «Экспарт-Імпарт», якія прапанавалі зерне па 118 долараў ЗША за 1 тону. У гэтым жа спісе апынулася таксама дзяржаўнае прадпрыемства «Гандлёвы дом «Белая Русь» кіраўніцтва справамі прэзідэнта, якое прапанавала зерне па цане 123 долары за 1 тону. Гэтая ж прэзідэнцкая структура выйграла конкурс на пастаўкі харчовай пшаніцы. «Гандлёвы дом «Белая Русь» прапанаваў яе па цане 185 долараў за 1 тону.

Можна толькі здагадвацца, за кошт чаго прадпрыемства кіраўніцтва справамі здолела забяспечыць найбольш прымальныя цэны. Здаецца, лягчэй было б проста прызначыць «Белую Русь» «генеральным» пастаўшчыком зерня ў Беларусь без правядзення ўсялякіх там тэндэраў, вынікі якіх у нас, як правіла, загадзя прадвызначаныя.

**Вераніка СТРОЕВА**

# Сачыненне пад капірку

**Скандальныя факты выявіліся ў Магілёўскай школе міліцыі.**

Як паведамляе газета «Магілёўскія ведамасці», кантрольныя службы паўторна праверылі пісьмовыя работы абітурыентаў, якія сёлета паступілі ў міліцэйскую школу, і выявілі непрыгожую карціну. Напрыклад, у палове сачыненняў па беларускай мове і ў кожным пятым па рускай мове тэксты былі аднолькавыя. У трэці паўторна правераных пісьмовых работ былі знойдзеныя памылкі, якія прыёмная камісія прамінула і не ўлічвала пры пастаноўцы адзнакі. У прыёмнай камісіі толькі яе старшыня быў спецыялістам па адпаведных дысцыплінах. Іспыты праходзілі дужа хутка і скончыліся на 5 дзён раней вызначанага правіламі тэрміну.

**Іван ЗАСАДА**

# Пункт для наркаманаў

**Пачынаючы з вясны, наркаманы Светлагорска абсалютна бясплатна абменьваюць шпрыцы ў спецыяльных пунктах, адкрытых у горадзе.**

Пункты даверу толькі за першыя два месяцы працы наведалі 2.398 наркаманаў, якія атрымалі 5.145 новых шпрыцаў, 1.506 прэзерватываў і 31 л дэзінфекцыйных сродкаў. Асноўныя наведвальнікі (40%) — юнакі і дзяўчаты ва ўзросце 18—20 гадоў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Прыбіральня каля Ільіча

**Камуністы Гомеля актыўна збіраюць подпісы супраць вынасу цела Леніна з маўзалея.**

Паколькі камуністаў у горадзе мала, дык падпісацца заклікаюць усіх, каму *«дорого имя и дело Ильича»*. Аднак у шчырасць пратэсту нашых ленінцаў не вельмі верыцца. Хутчэй за ўсё ў іх проста спрацоўвае звычка выконваць усе маскоўскія ініцыятывы. Інакш незразумела, чаму яны з поўнай абыякавасцю назіраюць за тым, як іхнія паплечнікі з гарвыканкама літаральна ў 20 метрах ад помніка правадыру пралетарыяту, які стаіць на цэнтральнай плошчы, будуюць гарадскую грамадскую прыбіральню. З 19 верасня прыбіральня будзе ўведзеная ў эксплуатацыю.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Скінулі Леніна

У горадзе Быхаве Магілёўскай вобласці на тэрыторыі былога ваеннага гарадка невядомыя звалілі з пастамента бюст Леніна і густа размалявалі помнік бальшавіцкай і фашысцкай сімволікай.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Анатолий Адамчук: «Это не мое заявление. Я написал его под диктовку»

Мы публикуем интервью, которое дал журналу «Эксперт» специальный корреспондент отдела аналитических программ ОРТ Анатолий Адамчук, автор скандально известного письма на имя президента Лукашенко, арестованный 15 августа в районе белорусско-литовской границы.

**— Ты занимался похищенными журналистами в Чечне и сам по сути оказался похищенным белорусскими спецслужбами. Как это получилось, что произошло? Ты был на границе с Литвой?**

— На границе я был.

**— И границу переходил?**

— Нет. Нас задержали почти за полкилометра до границы. Меня задержали на пути, и это отражено на видеосъемках, когда я шел в сторону границы, но это было за двести пятьдесят метров до первого заграждения. И там еще сто пятьдесят метров до границы.



*Анатолий Адамчук.*

**— Ты надпись «Стой, стреляю!» видел?**

— Там вообще надписи нет, что это граница. Есть надпись в двадцати пяти километрах, что это пограничная территория. «Стой! Въезд по пропускам».

**— А пропуск был?**

— Нет.

**— Как тебя занесло туда?**

— Обыкновенно. Я по рассказам, по видеосъемкам Шеремета знал, где это место. Сознательно туда шел.

**— Ты действовал по своей инициативе?**

— Руководство ОРТ было полностью в курсе наших планов. По крайней мере руководство наших информационных программ.

**— В информационных выпусках ОРТ сообщалось, что ты послан в Гродно встретиться с Павлом Шереметом.**

— Это нереально. Он находится под следствием. Для конспирации накануне я поставил все руководство и всех людей, которые имели к этому отношение, в известность: да, я еду в Гродно.

За что я до сих пор себя виню. Это действительно на моей совести, что со мной поехал Володя Костин, оператор ТВ-6. Никогда себе этого не прощу. Он белорусский гражданин. То, что вокруг нас, граждан России, будет идти политический скандал, спекуляция, — это я осознавал. Но Володя гражданин Беларуси, и я пытался его отговорить.

**— За что конкретно вас задержали?**

— Первый раз задержали на подходе к границе. Пограничники сначала оформили все протоколы, потом оформили все протоколы органы внутренних дел города Ошмяны в десяти километрах от границы. Потом задержали повторно. Я сидел в приемнике-распределителе, причем ситуация была... я не могу даже назвать ее оригинальной. Нас привезли, посадили. Вызвали на первый, даже не допрос — дачу объяснений КГБ. Мы дали объяснения. С утра меня вызывает милиционер, старший лейтенант, говорит: «Здравствуйте, кто вы такой? Мне сказали, вы были задержаны без документов». И тут я понимаю, что нас профессионально обули. Я, как мальчишка, отдал документы во время обыска, и их успели изъять работники белорусской госбезопасности. Я понял, что да — я бомж, задержан на автомобиле с московскими номерами, с сотовым телефоном. Я бомж, у меня нет паспорта, нет фамилии, нет имени. Управление внутренних дел работает правильно, как и положено. Я нахожусь в бомжатнике. Меня могут держать там по белорусским законам тридцать дней.

**— Что дальше?**

— Допросов было очень много. Если кто-нибудь бывал в КГБ на допросах, тот может меня понять. Восьмичасовой допрос в КГБ — это серьезное испытание. Как работает КГБ, я думаю, большинство образованных интеллигентных людей знает. Когда я увидел, что со мной работает следователь, который работает и с Павлом Шереметом, — Владимир Владимирович Тупик, когда я увидел методы ведения дела, тоже это почувствовал.

**— Ты чувствовал давление со стороны следствия?**

— Это даже нельзя назвать давлением. Это не давление. Это профессиональный прессинг ГБ.

**— Что конкретно они тебе предъявили?**

— Свои способности работники органов государственной безопасности Беларуси смогли мне очень убедительно продемонстрировать. Просто мне положили на стол документы. Все мои телефонные переговоры с руководством ОРТ. И не только мои. С руководством, с коллегами, которые имеют примерно мой статус, не относятся к руководству.

**— То есть получается, что о переговорах с ОРТ спецслужбы Беларуси уже знали, и твоя конспирация не сработала?**

— На допросах я в уме писал стихи, прозу, все что угодно. Свои ощущения. А следователь сидел и печатал. Сидел и печатал то, что уже было известно спецслужбам Беларуси. Они мне сказали, даже показали, какие переговоры и какие документы они могут изъять для того, чтобы подставить не только меня, и мы бы сели в Беларуси на пять лет.

**— Кто мог записывать эти слова?**

— Эти слова записаны спецслужбами Беларуси, повод абсолютно официальный. Павел Шеремет, шеф белорусского бюро ОРТ, находится под следствием, и поэтому прокурор имеет право дать санкцию на прослушивание служебного телефона Шеремета.

**— Правильно ли я понимаю, что конечной целью работы КГБ Беларуси было твое заявление на имя Лукашенко? Посмотри на этот факс. Это оно?**

— Мой почерк. Но любой лингвист, любой филолог сделает однозначное заключение. Это не мое заявление.

**— А кто же его писал?**

— Писал его я.

**— Как же так: писал я, а не мое заявление?**

— Писано под диктовку.

**— Ты его сознательно подписал?**

— Я говорю: «Ребята, понимаете, давайте юридически подходить. Меня задержали второй раз ни за что. Давайте я сейчас окажусь на свободе». Но когда я увидел, как ведут мое дело, я сказал, что я сейчас подпишу все что угодно. Давайте! Кстати, единственное, что я написал и подписал, — это то, что я выполнял свой профессиональный долг. Дескать, Александр Григорьевич, я выполнял свой профессиональный долг, и, если вы можете, отпустите меня.

При этом я им сказал: «Вы поймите, что я завтра приезжаю в Москву, все рассказываю, и понятно, что этот протокол — фарс, это фарс на уровне большой политики». Они говорят: «Да, понимаем. Но у нас приказ». Как выяснилось, скандал нужен не только России, скандал обязательно нужен Беларуси.

**— Анатолий, похоже, Москва встретила тебя холодно. Все оставили «на твоей совести», назвали «запуганным человеком». Поползли даже слухи о том, что ты заранее был завербован КГБ Беларуси, чтобы в самый ответственный момент подставить ОРТ. Может, это из-за фамилии такой. А может, вот из-за чего (цитирую один журнал): «Наконец, он выразил надежду, что ему оставят возможность продолжать профессиональную деятельность на территории Беларуси». Анатолий, ты шпион?**

— Ну конечно, всех разведок. А если серьезно, то мне действительно предложили место на белорусском телевидении. Это было в тот момент, когда я под диктовку белорусских спецслужб передавал заявление в адрес президента. Иван Иванович Пашкевич, заместитель главы администрации президента, сказал, что Александр Григорьевич Лукашенко предлагает мне место на белорусском телевидении либо в любых изданиях, любых средствах массовой информации. И я могу совершенно спокойно работать. К сожалению, это не вошло ни в один эфир. Там было, как я смеялся ему в лицо. Потом он мне это припомнил. Но я ему в лицо смеялся.

**— Значит, не согласился работать в Беларуси?**

— Я же вернулся в Москву.

*Беседовал*
**Никита КИРИЧЕНКО**

**МЕРКАВАННЕ**

# Ці можна параноіку кіраваць людзьмі?

Нечаканую актуальнасць для Беларусі набыло адно, здавалася б, чыста тэарэтычнае пытанне: наколькі псіхічна непаўнавартасным павінен быць чалавек, каб ён не мог займаць адказную дзяржаўную пасаду.

Відавочна, што людзі з цяжкімі псіхічнымі захворваннямі не могуць стаць кіраўнікамі. Добра бачны ўсім ненармальны стан іхняй псіхікі стварае хворым істотныя перашкоды на шляху да кіруючай пасады. А як быць з тымі людзьмі, у якіх праяўляецца хвароба не столькі розуму, колькі характару — усё тое, што ў псіхіятрыі завецца псіхапатыямі, паталагічным (паранаяльным) парушэннем асобы і да таго падобнымі тэрмінамі?

У адным з найноўшых падручнікаў псіхіятрыі (Коркина М.В. и др. Психиатрия, 1995 г.) пра паранаяльнае парушэнне асобы чалавека гаворыцца наступнае:

*«Признаками его считаются чрезмерная чувствительность больных к неудовлетворению своих притязаний; злопамятность, не позволяющая прощать оскорбления, обиды и нанесение ущерба; подозрительность и стремление искажать нейтральные или дружеские действия других, представляя их как зловредные; воинственное, сопровождающееся угрозами, отстаивание своих прав в каждой ситуации; чрезмерная самоуверенность, ощущение собственной важности; поглощенность мыслями, что все находятся в заговоре против них.*

*Важнейшей чертой этого типа является убежденность в своем превосходстве над окружающими, уверенность в первостепенной важности того, чем они заняты, и того, что они сделали. Поэтому... выявление распространенных нарушений и даже недочетов [представляется ими] потрясающими разоблачениями, их формальные требования — высоко принципиальными.*

*Они всегда претендуют на исключительное положение, на то, чтобы всё делалось так, как они считают нужным. Претендуя на лидерство, обычно сплачивают вокруг себя людей недалеких и недовольных своим положением.*

*Не получая признания своих «выдающихся» качеств и деяний, удовлетворения своих притязаний и требований, озлобляются, всюду видят врагов и завистников, злонамеренные козни против них. Начинают изощренно и даже жестоко преследовать своих мнимых врагов и действительных противников, считая, что те преследуют их.*

*Паранойяльному развитию способствуют социальные условия, в которых господствует формализм, доктринерство, чинопочитание, тоталитарный режим, нетерпение к инакомыслию... Ускоряют развитие [болезни] как отпор в ответ на притязания, так и ситуация, когда в руках склонного к паранойяльному развитию субъекта оказывается узаконенная власть над другими. В этих условиях на фоне конфликтных ситуаций паранойяльные идеи, обычно будучи сверхценными, могут превращаться в бредовые — бред преследования, величия... Подобные бредовые психозы ... считают особым психическим заболеванием — паранойей.*

*Паранойяльное развитие обычно развертывается в возрасте 30—40 лет — в период достижения социальной зрелости, и ослабевает лишь к старости. В юные годы ему предшествует эпилептоидная, шизоидная или истероидная акцентуация характера».*

Многія, напэўна, сустракалі людзей, маючых падобныя «асаблівасці» характару. Яны рэдка становяцца пацыентамі псіхіятрычных лячэбніц, бо большасць з іх не вар'яцее, не кідаецца забіваць людзей. Яны пераважна падпарадкоўваюцца волі свайго акружэння, нармалізуючаму сацыяльнаму ціску. У выніку схільныя да паранаяльнага развіцця суб'екты вымушаныя карэктаваць свае паводзіны, «трымаць сябе ў руках», у межах сацыяльнай нормы.

Аднак калі такі чалавек раптам сапраўды займее «ўзаконеную ўладу над іншымі» (калі ўжо ніхто зверху не здольны яго «папраўляць»), можна прадбачыць, па крайняй меры, два галоўныя, палітычна вельмі негатыўныя наступствы.

Па-першае, паколькі для параноіка, у адрозненне ад любога нармальнага чалавека, рэчаіснасць мае другаснае значэнне (першаснае — тыя погляды, уяўленні, ідэі, якія запаўняюць ягоную хворую галаву і якія ён лічыць абсалютна правільнымі), кіраўнік-параноік ва ўсіх сітуацыях будзе ўпэўнены, што толькі ён мае рацыю. Калі ж рэчаіснасць не адпавядае ягоным поглядам, «тым горш для яе». Такі кіраўнік будзе імкнуцца навязваць жыццю свае хворыя ідэі і ўяўленні. Прычым рабіць ён гэта будзе з імпэтам чалавека, які ў сваёй слушнасці ўпэўнены абсалютна.

Прыкладаў паранаяльных ідэй, якія навязваліся і навязваюцца грамадству, можна прывесці многа. Сярод іх і «всемирное господство арийской нации», і «построение коммунизма во всем мире», і ідэя расійскага імперыялізму, закамуфляваная пад лозунгам «славянского единства». Усе гэтыя ідэі не маюць ніякага дачынення да карэнных інтарэсаў усіх нармальных людзей, жаданні якіх накіраваныя на дабрабыт і звычайнае чалавечае шчасце.

Другое важнае наступства ўлады ў руках схільнага да паранаяльнага развіцця чалавека — своеасаблівае «фарміраванне» ягонай «каманды». З кола непасрэдна падначаленых будуць выкідацца ўсе тыя, хто будзе прапанаваць усё «рабіць па жыцці», «у адпаведнасці з навуковымі падыходамі», «так, як робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце». Прытым, чым больш настойлівым будзе чалавек, тым большым ворагам кіраўніка-параноіка ён будзе становіцца. У акружэнні ж апошняга застануцца толькі блюдалізы, здольныя толькі на «одобрямс», на выкананне любых (!) загадаў. Так пад псіхапатам выстройваецца таталітарная ўладная машына, якая пранізвае ўсё грамадства. Яна становіцца надзейным інструментам рэалізацыі ягоных нездаровых ідэяў і памкненняў.

Усё агаворанае стварае смяротную небяспеку для любога грамадства, узначальваемага псіхапатам-параноікам. Тое, што такая небяспека абсалютна рэальная, сведчаць шматлікія факты з гісторыі чалавецтва. Толькі XX стагоддзе «падаравала» два яскравейшыя прыклады — Гітлер і Сталін.

**Алесь АСТРОЎСКІ, доктар медыцынскіх навук, прафесар,** *г.Гродна.*

**ПОШТА**

# Месца знакамітай бітвы цяпер вядомае

З пісьмовых гістарычных крыніцаў даўно ўжо вядома, што буйнейшая бітва антыфеадальнай казацка-сялянскай вайны 1648—1651 гадоў на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага адбылася пад Лоевам. Менавіта тут у лютай сечы сышліся войска Вялікага княства на чале з гетманам Янушам Радзівілам і казацкае войска, якое ўзначальваў паплечнік Хмяльніцкага казацкі палкоўнік Міхайла Крычаўскі. Толькі казакаў загінула ў ходзе гэтых падзеяў больш за 10 тысячаў, значныя страты панёс і Радзівіл.

Вядома, што бітва адбылася 31 ліпеня 1649 года, а вось месца яе да апошняга часу не было вызначана. Але сёлета мясцовым краязнаўцам удалося дакладна вызначыць месца бітвы. А дапамаглі ў гэтым некалькі абставінаў.

Па-першае, артыкул Вітаўта Чаропкі «Лоеўская бітва», змешчаны ў чацвёртым нумары часопіса «Беларуская мінуўшчына» за 1995 г. У артыкуле падрабязна выкладзены ход і асноўныя падзеі гэтай бітвы.

Па-другое, сама прырода, якая, на дзіва, праз стагоддзі захавала рэшткі валоў стана войска Вялікага княства Літоўскага — гэта, магчыма, адзіная фартыфікацыйная пабудова XVII стагоддзя такога тыпу, якая захавалася ў Беларусі.

Па-трэцяе, памяць людская, якая трывала замацавала і данесла амаль праз тры з паловай стагоддзі назву ўрочышча «Разгромы», якое размешчана ў шырокай даліне Дняпра, дзе адбылася рашаючая сутычка войскаў.

Нядаўна на ўскрайку поля, каля берага маленькай рэчкі Вітач, правага прытоку Дняпра, краязнаўцы ўстанавілі мемарыяльны знак — чатырохметровы васьміканцовы крыж, сімвал прымірэння і згоды, на якім змешчана шыльда з надпісам: *«31 ліпеня 1649 года на гэтым месцы пачалася Лоеўская бітва. Упакой, Госпадзі, душы палеглых у гэтай бітве».*

Мяркуецца ў будучым устанавіць таксама мемарыяльныя знакі на месцы стана войска Вялікага княства Літоўскага і ва ўрочышчы Разгромы.

**Мікалай АНІСАВЕЦ, настаўнік гісторыі, старшыня праўлення асацыяцыі садзейнічання захаванню прыроднага асяроддзя і культурна-гістарычнай спадчыны «Карані»,** *г.Лоеў.*

# Падтрымайце ТБМ

Паважаныя суайчыннікі, а таксама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры!

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х гадоў і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і класы, ліквідуюцца беларускамоўныя выданні і выдавецтвы. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з'яўляецца адзінай грамадскай, некамерцыйнай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць усё беларускае.

Цяпер наша арганізацыя трапіла ў выключна цяжкае матэрыяльнае становішча. Спынена фінансаванне газеты «Наша слова», арэндная плата за памяшканне Таварыства павялічаная ў 10 разоў, доўгі час быў адключаны тэлефон. Мы не можам знайсці сродкаў на выданне матэрыялаў навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы». Але ТБМ не здаецца. На апошнім, V з'ездзе выбрана новае кіраўніцтва, якое шукае выйсце з гэтага становішча, што склалася не па віне арганізацыі.

Мы звяртаемся да вас з просьбай аказаць Таварыству разавую матэрыяльную падтрымку. Загадзя ўдзячныя ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, а таксама асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашую просьбу: **разліковы рахунак 3015212330014, код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска.** Спісы ахвярадаўцаў па іхнім жаданні будуць надрукаваныя.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

**ТЕНДЕНЦИИ**

# Самое страшное: народ приучают жить в нищете

На прошлой неделе в Минске состоялся первый семинар цикла «Право на достойную жизнь».

Его организовали Белорусский Хельсинкский комитет, Ассоциация содействия экономическому развитию, Федерация профсоюзов Беларуси и Белорусская конфедерация промышленников и предпринимателей. Такой необычно пестрый для нашей страны состав участников можно объяснить только одним: право на достойную жизнь должны иметь все люди, но они его не имеют.

Осуществить это право можно только на основе эффективной экономики, а для этого требуются соответствующие условия, главное из которых — свобода хозяйственной деятельности — отсутствует. Поэтому очень трудно наладить хорошее дело, трудно найти хорошую работу и достойную человека зарплату. Но самое страшное в том, что человека приучают жить в нищете.

При этом на всех углах пропаганда кричит о битве за урожай, о том, что хлеба будет получено на 1 млн. тонн больше. Эта «битва» обходится народу в триллионы рублей, народ же нищает. Кто съест эту прибавку, если 1/3 хозяйств регулярно выплачивает работникам мизерный заработок, а 1/3 уже не сделает этого никогда — разорились.

Упорным трудом наш народ добился к началу 90-х годов относительного благосостояния. В СССР лучше белорусов жили только прибалты; теперь наш уровень жизни, если судить по производству ВВП, на 32% ниже среднего уровня по СНГ. А нам всё рассказывают о достигнутой стабилизации. Но она достигнута только потому, что корова, например, не может давать молока меньше козы в принципе. Но это в принципе, а не в колхозах.

Если сравнить показатели развития Беларуси с другими странами СНГ, то окажется, что потеряли мы не меньше и приобрели не больше. И только по темпам инфляции наше лидерство несомненно. Правда, правительство утверждает, что рост цен удалось обуздать. На время — да, с этим можно согласиться. Но уже осенью потребуется поворот «лицом к деревне», которую, по утверждению министра Василия Леонова, ограбили во имя «социальной стабильности». Иными словами, цены на сельхозпродукцию придется отпускать, а как ведет себя в этом случае инфляция, все знают.

Понятно поэтому, что мизерное увеличение с 1 сентября минимальной зарплаты, которую далеко не все смогут заработать и получить, инфляция съест уже в августе. Единственное утешение, что народ сумел вырастить хороший урожай огурцов. Но ведь остальное надо покупать в магазине.

Неудивительно, что участники семинара пришли к выводу, что версия о стабилизации является блефом правительства. А с учетом нарастания проблем со сбытом произведенного надо думать о том, как бороться с таким безоглядным ростом.

Это просто удивительно, с каким пылом и жаром солидные люди, наши государственные деятели вместо положенных по чину дел занимаются мистификациями и детскими играми в шпионов. До смерти надоела вся эта возня вокруг интеграции. Недавно в солидной московской газете вновь прочитал: Лукашенко был едственным депутатом, который голосовал против «развала Союза». Не было этого, потому как Лукашенко значится в списке 27-ми депутатов, не принимавших участия в голосовании (видимо, в момент голосования в буфете были). Его похваливают, а он, как ребенок, радуется: не признается, что это не он, а Тихиня голосовал против.

Я вот, например, могу сказать, что не участвовал в горбачевском референдуме по поводу сохранения СССР не потому, что жаждал суверенитета для Беларуси. А потому, что бесконечно устал от всей той болтовни по поводу «обновленного социализма». И мне в голову не приходит приписать себе заслуги Зенона Пазьняка или Юрия Ходыко.

Позднее понял чужую правоту и бесконечно благодарен этим людям. Но президент суверенной Беларуси благодарности не испытывает. Он, якобы, не обязан своим постом белорусским «национал-фашистам» (!) и уже, судя по всему, посчитал себя свободным от обязательств перед избравшим его народом. Подчеркиваю — на пост президента суверенной Беларуси.

Эти мысли пришли в голову, пока я слушал выступления и дискуссию участников семинара. Им надоела политика. Люди просят, чтобы им позволили работать, как они умеют. То есть — хорошо. Но пока люди этого не требуют. Судя по всему, боятся.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

